# Падзеі ◊ Здарэнні ◊ Факты ◊ Каментарыі ◊ Весткі



## СВЕТ

### ДАРАДЧЫ ПАЛІТЫЧНЫ КАМІТЭТ

Калі аддаем матэрыял да друку, у **Будапешце** (Венгрыя) распачынаецца пасяджэнне **Дарадчага палітычнага камітэта дзяржаў удзельніц Варшаўскага дагавору.** На чале польскай дэлегацыі стаіць I сакратар ЦК ПАРП **Уладзіслаў Гамулка,** дэлегацыю Савецкага Саюза ўзначальвае генеральны сакратар ЦК КПСС **Леанід Брэжнеў.** На нараду ў Будапешт прыбылі таксама дэлегацыі Чэхаславакіі, Балгарыі, Румыніі і ГДР.

### КІТАЙСКІЯ ПРАВАКАЦЫІ

Ва Уладзівастоку адбылася прэс-канферэнцыя, на якой генерал Лобанаў паінфармаваў журналістаў аб чарговых правакацыях кітайскай групы Мао 14 і 15 сакавіка г.г. — 14 сакавіка раніцай, — сказаў генерал, — кітайскія салдаты прабавалі авалодаць савецкім востравам Даманскі, але савецкія пагранічнікі прымусілі няпрошаных гасцей пакінуць востраў. 15 сакавіка, таксама раніцай, пад аслонай артылерыйскага агню вялікая група кітайцаў зноў уварвалася на савецкі востраў. Савецкія воіны і на гэты раз, міма перавышаючай колькасці кітайцаў, прагналі іх з савецкай тэрыторыі. Прыгляньмася яшчэ раз прычынам гэтых правакацый. Ці фактычна кітайцам не хапае ўжо сваёй тэрыторыі і таму дамагаюцца яе пашырэння? Не, факты паказваюць на што іншае. Амаль палова тэрыторыі Кітая да сёння не загаспадаравана. А можа якія-небудзь нацыянальныя справы? Таксама не. Група Мао абсалютна не ставіць пытання звароту такіх кітайскіх тэрыторый, якімі бясспрэчна з'яўляецца Тайвань, Макао ці Ганконг. Правакацыі насільваюцца тады, калі група Мао мае цяжкасці ўнутранага характару. Дэманстрацыі ў Кітаі, якія зараз насіліліся, патрэбныя групе Мао на тое, каб расправіцца з уласнай апазіцыяй. Напрыклад, пасажыры прыбываючыя з Кітая ў Японію, мелі пацвердзіць, што ў некаторых раёнах Кітая паўсталі антымааўскія арганізацыі, мэтай якіх барацьба з ваеннай бюракратыяй.

У Савецкім Саюзе адбываюцца шматлікія дэманстрацыі. Дэманструючыя супраціўляюцца гранічным авантурам мааістаў запэўняючы партыю і ўрад, што гатовы бараніць кожную пядзю савецкай зямлі. Характэрным для заяў Савецкага ўрада, супраць кітайскім правакацыям, ёсць факт, што не атаясамляецца ў іх кітайскага народа з групай Мао.

### НА БЛІЗКІМ УСХОДЗЕ

Вельмі напружанай была сітуацыя на Блізкім Усходзе. У мінулым тыдні аж 16 разоў дайшло над Суэцкім каналам да страляніны. Пакуль што тут абсалютна не відаць развязкі гэтай напружанай сітуацыі. Трэба напомніць, што ад 6 чэрвеня 1967 года (дата афіцыйнага спынення агню), фактычна не спынена перастрэлу. Ізраіль не зрабіў ніякіх крокаў, каб урэгуляваць мірным шляхам сітуацыю, а наадварот, насіляе ваенныя дзеянні.

A.K.



## БССР

### ДАЛАМІТАЎ

Вялікае месцанараджэнне даламітаў «Гралева» адкрыта на Віцебшчыне беларускімі геолагамі. Запасы пакладаў вызначаюцца ў сто мільёнаў тон — гэта ў два разы перавышае тое, што маюць усе вядомыя паклады гэтых карбанатавых парод у Беларусі.

На базе месцанараджэння магчыма будаўніцтва заводаў даламітавай мукі прадукцыйнасцю ў два—тры мільёны тон у год.

### ПІСЬМЕННІКАЎ

У Мінску адбыўся партыйны сход беларускіх пісьменнікаў, на якім прынята рэзалюцыю заклікаючую беларускіх пісьменнікаў мацаваць сувязі з рабочым класам Беларусі.

Вырашана заключыць дагавор сацыялістычнай садружнасці паміж Саюзам пісьменнікаў Беларускай ССР і Мінскім заводам аўтаматычных ліній.

### АРХІТЭКТУРЫ

Беларускае выдавецтва «Вышэйшая школа» выпусціла кніжку доктара архітэктуры, прафесара В. Чантурыя, якая адлюстроўвае гістарычны працэс развіцця архітэктурнай творчасці ў Беларусі са старажытных часоў і да кастрычніцкага перыяду.

«Гісторыя архітэктуры Беларусі» — вынік шматгадовых даследванняў вучонага і вывучэння ім у пленеры архітэктурнай і горадабудаўнічай спадчыны беларускага народа, а таксама матэрыялаў цэнтральных і рэспубліканскіх архіваў, фондаў музеяў і літаратурных крыніц.

### НАРОДНАЙ

У Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларускай ССР адбылася канферэнцыя, прысвечаная вынікам даследванняў беларускай народнай творчасці.

### ДАГАВОРЫ

Паміж калектывамі Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы і Мінскага трактарнага завода заключаны дагаворы аб сацыялістычнай садружнасці.

Вялікая група трактаразаводцаў пабывала ў гасцях у артыстаў. У заканчэнне сустрэчы госці прагледзелі спектакль «Гросмайстарскі баль».

### ДАРОЖНАГА

« Літаратура і Мастацтва» змясціла матэрыял пра таленавітага беларускага паэта Сяргея Дарожнага (Сяргея Сераду), які паходзіць з-пад Слоніма. Нялёгкі лёс закінуў паэта ў трыццатых гадах на Далёкі Усход, дзе ён і памёр у 1945 г.

### ПАЎСТАГОДДЗЯ

Ужо паўстагоддзя існуе беларускі народны тэатр у Краснаполлі на Магілёўшчыне.

Да свайго юбілею калектыў тэатра падрыхтаваў п'есу У. Галубка «Ганка».

### ПЕРАДАЧУ

Беларускае і Літоўскае тэлебачанне падрыхтавалі цікавую перадачу — «Там, дзе Нёман цячэ»... Расказана ў ёй пра векавую дружбу абодвух народаў.

(С.Я.)



## ПОЛЬШЧА

### ПРАФСАЮЗЫ І РАДЫ НАРАДОВЫЯ

Адбылося X пленарнае пасяджэнне Цэнтральнай рады прафсаюзаў прысвечанае супрацоўніцтву паміж прафсаюзамі і радамі нарадовымі. З дакладам выступіў сакратар Цэнтральнай рады прафсаюзаў Веслаў Кос. Асаблівую ўвагу звярнуў ён на супрацоўніцтва прафсаюзаў з радамі нарадовымі ў галіне забеспячэння сацыяльных патрэб насельніцтва. Падкрэсліў ён, што прафсаюзныя ўстановы не павінны згаджацца на скрэсліванне з інвестыцыйных планаў пабудовы сацыяльна-бытавых аб'ектаў і абсталяванняў. Прафсаюзы будуць імкнуцца да таго, каб узмоцніць дзейнасць сваіх прадстаўнікоў у камісіях падзелу памяшканняў і ў праўленнях памяшкальных спулдзельняў. Будуць яны імкнуцца да палепшання ўмоў транспарту, асабліва пры даездах да працы. Абарона інтарэсаў працоўных мас патрабуе ўзмацнення ўдзелу прафсаюзаў у камісіях цэн, а таксама ў галіне кантролю гандлю, паслуг і гастраноміі.

### ЗАДАННІ

На апошнім пасяджэнні Варшаўскага ваяводскага камітэта партыі з прамоваю выступіў сакратар Цэнтральнага Камітэта партыі Рышард Стшэлецкі. Акрэсліў ён заданні, якія стаяць перад партыйнымі арганізацыямі ў набліжаючайся выбарчай кампаніі ў Сейм і рады нарадовыя. Належаць да іх перш за ўсё: ацэнка дзейнасці і праблема паляпшэння працы радаў нарадовых, а таксама дзейнасці радных і паслоў, аналіз рэалізацыі выбарчых пастулатаў, апрацоўка магчыма найлепшай выбарчай праграмы на наступны перыяд, справа належнай падборкі кандыдатаў на паслоў і радных, шырокая выясняючая ідэалагічная праца, якая згуртуе ўсё грамадства вакол партыі і яе праграмы, супрацьпастаўляючы ўсялякай антысацыялістычнай дыверсіі.

### РЭФОРМА

Прадаўжаецца інтэнсіўная праца над рэформай фінансавай сістэмы Польшчы. Праблемы гэтыя вырашае спецыяльная камісія, якая дзейнічае пад кіраўніцтвам міністра фінансаў. Новая фінансавая сістэма пачне дзейнічаць ад 1 студзеня 1971 года. Некаторыя развязкі новай сістэмы будуць аднак уводзіцца значна раней.

### АДУКАЦЫЯ

Галоўнае статыстычнае бюро (ГУС) правяло аналіз адукацыі працаўнікоў нацыяналізаванай гаспадаркі. Аналіз такі праводзіцца кожны чацвёрты год. Вынікае з яго, што зараз вышэйшую адукацыю мае 4,7 працэнта працуючых (чатыры гады таму назад было іх 4,3 працэнта). Колькасць працуючых з сярэдняй прафесіянальнай адукацыяй узрасла з 8,4 да 11,2 працэнта, а працуючых з асноўнай (засаднічай) прафесіянальнай адукацыяй з 11,2 да 15,3 працэнта. Колькасць працуючых з агульнаадукацыйнымі атэстатамі сталасці засталася нязменнай — каля 4,7 працэнта.



## ВАЯВОДСТВА

### ПЕРАД ВЫБАРАМІ

Распачалася ўжо ўступная падрыхтоўка да выбараў у Сейм і рады нарадовыя. Выбары адбудуцца летам г.г. Ва ўсіх паветах праводзяцца пасяджэнні паразумяваўчых камісій. У час гэтых пасяджэнняў мясцовыя палітычныя і грамадскія дзеячы абмяркоўваюць формы і метады супольнай дзейнасці ў перыяд павышанай грамадскай актыўнасці.

### НА ЗІМОВЫМ ПАЛІГОНЕ

Салдат Падляшскай ваеннай часці Войска ўнутранай абароны, якія прабывалі на зімовым палігоне, наведаў член ЦК ПАРП, I сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку тав. А. Лашэвіч. Разам з ім пабываў у салдат шэф Ваяводскага ваеннага штаба палкоўнік З. Катоўскі. Пазнаёміліся яны з умовамі, у якіх жывуць і абучаюцца салдаты зімой на палігоне.

### ДЗЯЎЧАТЫ

Сярод 50 тысяч членаў беластоцкай арганізацыі Саюза вясковай моладзі амаль палавіна — гэта дзяўчаты. Найбольш актыўных сярод іх Ваяводскае праўленне ЗМВ запрасіла на сустрэчу, якая нядаўна адбылася ў Беластоку.

### НА ПАБУДОВУ ШКОЛ

У гэтым годзе жыхары Беластока склалі ўжо на грамадскі фонд пабудовы школ і інтэрнатаў суму 1 мільён 530 тысяч 967 зл.

### КОНКУРС

Ваяводскі камітэт Фронту адзінства народа і Прэзідыум ВРН у Беластоку супольна з рэдакцыяй «Газеты Беластоцкай» аб'явілі вялікі конкурс дзеля адзначэння 25-ай гадавіны ПНР. Асновай гэтага конкурсу з'яўляецца спаборніцтва за найчысцейшыя, за найбольш гаспадарлівыя вёску і горад. Конкурс працягвацца будзе ад 1 красавіка да 30 снежня 1969 года. Для пераможцаў прызначаецца на ўзнагароды аж 1 мільён 300 тысяч злотых.

### ПЕРАД КАНГРЭСАМ

12 сакавіка адбылося ў Беластоку пленарнае пасяджэнне Ваяводскага камітэта Аб'яднанага людовага стронніцтва. Было яно прысвечана абмеркаванню палітычна-арганізацыйнай кампаніі перад V кангрэсам стронніцтва, які 29 сакавіка г.г. адбудзецца ў Варшаве. У сувязі з гэтым у пленарным пасяджэнні прынялі таксама ўдзел дэлегаты на гэты кангрэс з Беластоцкага ваяводства.

### ПЕРАД ПАВОДКАЙ

Снежная і даволі марозная сёлеташняя зіма стварае пагрозу знішчальнай паводкі. Рэкі Буг і Нарва скованы яшчэ слоем ільду, таўшчынёю ў 20—50 см. Ва ўсіх паветах ваяводства ў поўнай пагатоўнасці супрацьпаводкавыя камітэты. 14 сакавіка адбылася ў Беластоку нарада іх прадстаўнікоў. Нарадай кіраваў асабіста старшыня С. Жмійка. Члены супрацьпаводкавых камітэтаў абмеркавалі стан падрыхтоўкі да забеспячэння перад грознай стыхіяй.

(вр)




**Niedziela, 23.III.**

8.25 Program dnia. 8.30 ,,Sekrety rosyjskiego mistrza'' — unikalne kolekcje zegarów i instrumentów muzycznych (Leningrad). 9.00 TV Kurs Rolniczy: ,,Zwalczanie chwastów w uprawach polnych''. 9.35 ,,Przypominamy, radzimy''. 10.00 Dla młodych widzów: ,,Sport i zabawa'' — turniej gier i zabaw sportowych (Berlin). 11.00 Sprawozdanie sportowe. W przerwie ok. 11.45 Dziennik. 12.45 ,,Koncert muzyki popularnej''. 13.30 ,,Koncert Życzeń'' (,,W starym kinie'')' 14.25 ,,Przemiany''. 14.55 Teatrzyk dla Przedszkolaków. 15.35 ,,Szlakiem zwycięstwa'' — film (,,Polacy na frontach II Wojny Światowej''). 15.55 ,,Wielka gra''. 16.45 ,,Muzyka i Moda''. 17.35 ,,Ludzie i zdarzenia''. 18.20 ,,W krainie operetki''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.00 ,,Lata złudzeń'' — film (,,Drogi i bezdroża II Rzeczypospolitej''). 20.30 ,,Zaza'' — nowela film. franc. 20.55 Sprawozdanie z meczu hokejowego o Mistrzostwo Świata Kanada — Czechosłowacja (Sztokholm). W przerwie Wiadomości sportowe.

**Poniedziałek, 24.III.**

15.25 Program dnia. 15.30 i 22.30 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.25 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: ,,Zwierzyniec''. 17.30 ,,Echo Stadionu''. 17.50 Po sąsiedzku'' — rep. film. 18.05 ,,Kino Krótkich Filmów''. 18.45 ,,Eureka''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.00 Teatr TV. F. Dostojewski: ,,Bracia Karamazow''. 22.10 Program dokumentalny. 22.30 Dziennik. 22.45 Mistrzostwa świata w hokeju na lodzie. Związek Radziecki — Szwecja.

**Wtorek, 25.III.**

9.55 Dla szkół (kl. I lic.) Język polski. Molier: ,,Świętoszek''. 10.25 ,,Martin Eden'' cz. I. — film fab. CSRS. 11.30 Przerwa. 12.00 Dla szkół (kl. II—III lic.) ,,Jak byś postąpił''. 12.20 Przerwa. 12.45 i 14.55 Przysposobienie Rolnicze: ,,Jak powstaje odmiana''. 13.20 Przerwa. 14.50 Program dnia. 15.30 i 22.35 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 ,,Tam gdzie pisał Reymont'' — film pol. 17.00 Telewizyjny Ekran Młodych. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.05 ,,Za kierownicą''. 20.35 ,,Martin Eden'' cz. I — film fab. CSRS. 21.40 ,,Kontakty''. 22.10 Dziennik.

**Środa, 26.III.**

9.55 ,,Martin Eden'' cz. II — film fab. CSRS. 10.55 Dla szkół (kl. VIII) Chemia: ,,Woda''. 11.25 Przerwa. 14.55 Program dnia. 15.00 Matematyka w szkole: ,,Iloczyn wektora przez liczbę, Twierdzenie Talesa''. 15.30 i 23.10 Politechnika TV. kurs przygotowawczy. 16.05 i 23.45 Politechnika TV, kurs przygotowawczy. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: ,,Latający Holender w Roztocku''. 17.20 ,,Z drugiej strony szklanego ekranu''. 17.35 ,,Technologiczny próg'' — progr. morski. 18.05 TV Kurier Warszawski. 18.20 ,,Orkiestra i batuta'' — V koncert z cyklu ,,Słuchamy i patrzymy''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.00 ,,Martin Eden'' cz. II — film fab. CSRS. 21.00 ,,Światowid''. 21.30 PKF. 21.40 ,,Godzina Teatru'' — film. 22.50 Dziennik.

**Czwartek, 27.III.**

8.35 ,,Ich dwoje i chłopiec'' — film fab. bułg. 9.55 Dla szkół (kl. V—VI) Język polski: ,,Nasz dzień powszedni''. 10.25 Przerwa. 10.55 Dla szkół (kl. VI) Historia. ,,Zwycięstwo pod Wiedniem''. 11.25 Przerwa. 12.45 i 14.55 Mechanizacja Rolnictwa: ,,Aktualności mechanizacyjne''. 13.20 Przerwa. 14.50 Program dnia. 15.30 i 23.05 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: ,,Ekran z bratkiem''. 18.00 TV Kurier Lubelski. 18.15 ,,Nad Odrą i Bałtykiem''. 18.45 ,,Artyści XXV-lecia'' — program muzyczny. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.00 ,,Polska zza siódmej miedzy''. 20.30 Mistrzostwa świata w hokeju na lodzie. Szwecja — Kanada. Ok. 21.15 Teatr Sensacji. A. Zbych: ,,Ucieczka''. 22.15 ,,Refleksje''. 22.45 Dziennik.

**Piątek, 28.III.**

10.05 ,,Dyl Sowizdrzał'' — film fab. NRD. 11.30 Przerwa. 15.05 Program dnia. 15.10 ,,Wybieramy zawód''. 15.30 i 22.50 Politechnika TV I roku. 16.05 i 23.25 Politechnika TV I roku. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla dzieci: ,,Kino Ptyś''. 17.00 Dla dzieci: ,,Miś z okienka''. 17.15 TV Kurier Mazowiecki. 17.30 ,,Nie tylko dla pań''. 17.50 ,,Don Kichot'' — film. 18.20 ,,Julian Puchalski'' (,,Sylwetka karykaturzysty''). 18.40 ,,Czwarta zmiana''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 Dziennik. 20.00 Teatr TV: I. Shaw — ,,Zamach'' 21.30 Dziennik. 21.45 Mistrzostwa świata w hokeju na lodzie. ZSRR — CSRS.

**Sobota, 29.III.**

10.00 Film fab. 11.20 Przerwa. 15.10 Program dnia. 15.15 TV Kurs Rolniczy: ,,Wiosenne przygotowanie zwierząt do okresu pastwiskowego''. 15.50 Program Tygodnia. 16.15 ,,Na zdrowie''. 16.35 Dziennik. 16.45 Dla młodych widzów: ,,Konkurs pięciu milionów''. 17.45 ,,Spotkania z przyrodą''. 18.15 ,,Rozmowy o książkach''. 18.30 ,,Z piosenką pod rękę'' — film TV. 18.55 ,,Wieczorne rozmowy''. 19.20 ,,Dobranoc''. 19.30 ,,Monitor''. 20.10 ,,Głupia sprawa'' — kabaret literacki. 21.10 Dziennik. 21.25 Wiadomości sportowe. 21.35 ,,Rudobrody'' — film fab. jap. (Kino Interesujących Filmów).




**Piątek, 21 marca**

8.00 Dziennik. 8.15 ,,Cuda przyrody''. 8.30 Międzynarodowe zawody pływackie. 9.00 Hokejowe mistrzostwa świata. Kanada — USA. 14.15 Program dnia. 14.20 ,,W Jasnej polanie''. Film dokumentalny. 14.40 ,,Panorama nowin''. 15.00 Dla uczniów o Leninie. 15.30 ,,Sygnalizator''. 16.00 Hokejowe mistrzostwa świata. Kanada — Szwecja. 18.45 ,,Sami''. Film krótkometrażowy. 19.30 TV szkoła rolnicza. 20.00 Hokejowe mistrzostwa świata. ZSRR — Czechosłowacja.

**Sobota, 22 marca**

8.00 Program rozrywkowy. 8.30 Film animowany. Dla dzieci. 9.10 ,,Kronika życia muzycznego republiki. Rok 1952''. 10.00 Przegląd międzynarodowy. 10.30 Program młodzieżowy. 11.30 Koncert — sztafeta zespołów amatorskich BSRR. 12.15 ,,Bojowa wspólnota''. 12.45 Spektakl teatru lalek. 13.35 ,,Wybitni szachiści świata''. A. Alochin. 13.55 ,,Człowiek ziemi mojej''. 14.30 TV barwna. 16.00 Hokejowe mistrzostwa świata. Finlandia — USA. 18.30 ,,Świat socjalizmu''. 19.00 Program rozrywkowy. 21.00 ,,Tylko fakty''.

**Niedziela, 23 marca**

8.00 ,,Kiosk muzyczny''. 8.30 Dla przedszkolaków. 9.00 ,,Nauka zwyciężania'' 10.00 Kronika życia muzycznego republiki. Rok 1953''. 10.40 ,,Szkatułka muzyczna''. 11.00 ,,Godzina wiejska''. 12.00 Hokejowe mistrzostwa świata. ZSRR — USA. 14.15 Dla żołnierzy. 15.00 ,,Klub filmowy''. 16.00 TV barwna. 17.30 Mate Borsz Film TV. I seria. 18.30 ,,Siedem dni''. 19.00 Program muzyczny. 20.00 Hokejowe mistrzostwa świata. Czechosłowacja — Kanada.

 

Пачатак на стар. 1

## „ГАСПАДАРЫ“

вартасць перадз'ездаўскага чыну бельскіх гарцэраў асягнула суму 104977 злотых.

Такім чынам гарцэрскі лозунг «быць годным звання гаспадароў» цесна спалучаецца ў гарцэрскай практыцы з ідэйна-выхаваўчымі заданнямі гэтай арганізацыі. Гарцэрская арганізацыя жыва рэагуе на ўсе вялікія падзеі ў краіне і на свеце ўключаючы іх у праграму сваёй дзейнасці. Так, напрыклад, сярод гарцэраў цешыцца папулярнасцю спраўнасць «Аўрора». Для здабыцця яе патрэбная пэўная сума ведаў аб Вялікай кастрычніцкай рэвалюцыі. У Бельскім павеце спраўнасць гэтую здабыло 9.127 маладых асоб. Іншым праявам ідэйнага заангажавання наймалодшага пакалення нашай краіны і іх арганізацыі могуць быць падаркі гарцэрскай моладзі для дзяцей і моладзі гераічнага В'етнама. У акцыі гэтай асаблівай ахвярнасцю адзначаліся школьнікі з Рыбалаў, з пачатковай школы нр 1 і нр 3 у Бельску Падляшскім, гарцэры з Орлі і Тапчэва. За апеку над месцамі народнага геройства Саюз барацьбітаў за свабоду і дэмакратыю ўручыў бельскім гарцэрам 86 адзнак Апекуна месцаў нацыянальнай памяці.

Усё гэта ў вялікай ступені з'яўляецца гарантыяй таго, што маладое пакаленне Бельшчыны будзе пакаленнем людзей ідэйных, а адначасова пакаленнем людзей гаспадарлівых.

**Ул. Паўлючук**

# З паўлітроўкай за рулём

Статыстыка ўзнімае трывогу. На дарогах Беластоцкага ваяводства ў мінулым годзе п'яныя шафёры аж на 32 працэнты больш выклікалі няшчасных здарэнняў, як у папярэднім 1967 годзе. Смерць і калецтва трыумфуюць. Іх плён павышаецца з году ў год. Астаюцца сіроты і акалечаныя людзі, непрыдатныя да нармальнага жыцця ў нашай грамадскасці.

— Што там! Адзін кілішак не зашкодзіць! Кроў толькі разагрэе.

Як жа часта паўтараюць гэтыя словы і шафёры, і людзі, якія карыстаюцца з паслуг шафёраў. За адным кілішкам ідзе другі, трэці... Асабліва тады, калі на дварэ мароз і снег.

**Улады рашылі катэгарычна і астаткова пакончыць з п'янствам сярод шафёраў.** І слушна. Тут жа цаной з'яўляецца самая вышэйшая вартасць — жыццё чалавека, яго спакойны і працавіты быт.

Старшыня Рады Міністраў ПНР пад канец снежня мінулага года выдаў катэгарычнае распараджэнне ў справе барацьбы з алкагалізмам сярод шафёраў. На аснове гэтага распараджэння старшыня Прэзідыума ВРН у Беластоку ў студзені гэтага года распарадзіўся, што:

1. Шафёр, які ў нецвярозым стане прыступіць да працы, або нап'ецца ў час працы, або зараз пасля заканчэння працы, будзе **неадкладна і безагаворачна дысцыплінарна ўвольнены з працы.**

2. Працаўнік прадпрыемства, якому непасрэдна падпарадкаваны шафёры, калі будзе **дазваляць** шафёрам піць гарэлку, або будзе п'яных шафёраў дапускаць да працы — **можа быць дысцыплінарна ўвольнены з працы.**

3. Шафёр, якога падазраюць, што любіць выпіць, **мае быць абавязкова накіраваны да лекара,** каб сцвердзіць, ці гэты шафёр **можа выконваць сваю прафесію.** У накіраванні мае быць ясна ўказана прычына, чаму шафёра кіруюць на лекарскі кантроль.

Так шафёру, які рашаецца ехаць на двух газах, як і працаўнікам прадпрыемстваў адказным за працу шафёраў, **не прыслугоўвае права на якую-небудзь скаргу** ў выпадку ўвальнення іх з працы за піццё гарэлкі.

**Гэтыя распараджэнні адносяцца таксама да піцця піва.** Ніякія апраўданні, што гэта здарылася першы раз, што выпіў толькі адзін кілішак або толькі кубак піва, **не будуць прымацца** пад увагу.

Незалежна ад гэтых суровых і катэгарычных пастаноў распараджэнне старшыні прэзідыума ВРН **накладае абавязак на кіраўнікоў прадпрыемстваў** Беластоцкага ваяводства, каб у выпадку падазрэнняў, што шафёры п'юць гарэлку, а іх начальнікі ім на гэта дазваляюць — **адным і другім спыніць грашовыя прэміі** прадбачаныя ў сістэме зарплаты.

Спадзяемся, што гэтыя распараджэнні ўрэшце прымусяць шафёраў і іх начальнікаў усур'ёз прызадумацца, ці варта садзіцца за руль аўтамашыны з бутэлькай гарэлкі, ці варта глядзець праз пальцы на п'янства сярод шафёраў.

Можна аднак шкадаваць, што неабходна было выдаваць аж так суровыя распараджэнні, якія на добрую справу сярод культурнай грамадскасці не павінны мець месца.

В.Р.

Пачатак на стар. 1

## Школа і яе кіраўнік

У сябе дык мы ўжо ведаем. Горш бывае з паветам. Гэтыя людзі не заўсёды з намі кантактуюцца прыязджаючы на нашу тэрыторыю з дакладамі, лекцыямі ці іншымі формамі ідэалагічнага ўздзеяння, а ў сувязі з тым або паўтараюцца, або не ахопліваюць большай колькасці насельніцтва. Мы павінны абавязкова ведаць, якая палітычная праца вядзецца на тэрыторыі нашай ГРН.

Гэта хіба зразумела амаль кожнаму. Але практыка паказвае, што ёсць выключэнні. Ведаючы аднак энтузіязм у партыйнай рабоце ўсяго гарадоцкага КГ ПАРП верым, што і гэтыя цяжкасці пераадолее.

На гэтым і прыходзіцца закончыць кароценькі расказ пра школу і яе кіраўніка ў Гарадку.

**А. Карпюк**

## „ЗІМОВАЯ ПРЫГОДА“ ПА — ПОЛЬСКУ

Нядаўна ў Варшаве выйшла з друку новая цікавая кніжка вершаў Максіма Танка ў перакладзе на польскую мову — «Зімовая прыгода». Кніжку выдала «Наша кнігарня».

Вершы выбраў і пераклаў на польскую мову Віктар Варашыльскі.

У незвычайна прыгожым графічным афармленні знойдзем такія дзіцячыя вершы, як «Ехаў казачнік Бай», «Галінка і верабей», «Журавель і чапля», «Мухамор», «Жук і слімак», «Заячы дом», «Зімовая прыгода» і шмат іншых.

Пераклад вершаў М. Танка дасць магчымасць пазнаёміцца з вершамі беларускага паэта дзецям, якія не ведаюць беларускай мовы. У кніжцы сабраны дзіцячыя вершы, напісаныя па матывах беларускіх народных казак, цудоўныя вершы аб прыродзе, аб звычках птушак і звяроў і іншыя. І ўсё гэта для дзяцей і аб дзецях.

Шмат працы ўклаў перакладчык, стараючыся як найбліжэй перадаць вобразнасць і лірычнасць вершаў. І гэта яму ўдалося.

Вельмі важная рэч у дзіцячых выданнях — графічны бок кніжкі. А «Зімовая прыгода» напэўна прыцягне да сябе ўвагу дзіцяці. Ілюструючы вершы Максіма Танка, мастак Габрыель Рэховіч стварыў амаль да кожнага з іх свой вельмі каляровы, сапраўды казачны свет. Пачынаючы ад прыгожай вокладкі, кожная ілюстрацыя — гэта амаль самастойны мастацкі твор па матывах верша, які мае свой настрой і сваю каларыстыку.

Дзіцячыя вершы Максіма Танка ў перакладзе на польскую мову могуць быць выкарыстаны на школьнай сцэне, для прыкладу, у акалічных мантажах на польскай мове або ў школах, дзе не вядзецца навучанне беларускай мовы.

Некаторыя вершы — «Як вясна прыйшла» або «Журавель і чапля» можна выкарыстаць у пастаноўцы, падзяліўшы яго на ролі і выступіўшы ў масках на школьным тэматычным вечары.

(яч)

## КАВАЛІ

У 1960 годзе ў Беластоцкім ваяводстве было 933 кавалі, а ў 1968 годзе — усяго 688 кавалёў. У Сакольскім павеце было тады 55 кавалёў, а зараз — 38; у Гайнаўскім павеце было 42 кавалі, цяпер 29.

Невялікая іх частка напэўна перайшла працаваць у ПОМ-ы і сельскагаспадарчыя гурткі. Аднак, у большасці гэта вынік адыходу старога пакалення і ніякага зацікаўлення кавальскім рамяством з боку маладога пакалення.

(ся)

## Ужо можна купіць

Сакольская насенная цэнтраля ўжо даставіла ва ўсе ГС-ы Сакольскага і Дуброўскага паветаў кваліфікаванае насенне пшаніцы, ячменю і аўса. Сяляне, якія ахоплены планавым абменам насення, могуць ужо яго набыць у ГС-ах.

(XX)



## МУЗЫЧНАЕ АГНІСКА

Пры пачатковай школе ў Боцьках (Бельскі павет) ужо некалькі год паспяхова працуе музычнае агніска. Вучыць ігры на акардэонах вопытны педагог Мікалай Турковіч. Наймалодшым і самым здольным вучнем з'яўляецца дзевяцігадовая Іра Амільянчук.

Тэкст і фота
**П. Зінкевіч**

## Наш Каляндар

**30 год назад, 20 сакавіка 1939 г., памёр вядомы беларускі пісьменнік Максім Гарэцкі. Нарадзіўся ён 18 лютага 1893 г. у в. Малая Бабацькаўка на Мсціслаўшчыне ў сялянскай сям'і. Скончыў Горацкае каморніцка-агранамічнае вучылішча. У 1914 г. удзельнічаў у баях у Прусіі, дзе быў ранены. У 1919. пачаў працаваць настаўнікам у Віленскай беларускай гімназіі. У 1923 г. выехаў у Мінск, дзе працаваў у Інстытуце беларускай культуры. У 1930 г. быў арыштаваны і асуджаны на адміністрацыйную высылку. Памёр у пасёлку Вожаель, Жалезнадарожнага раёна Комі АССР.**

**М. Гарэцкі выдаў кнігу «Рунь» (1914), «Дзве душы» (1919), «Досвіткі» (1926), «У чым яго крыўда» (1926), «На імперыялістычнай вайне» (1926), «Ціхая плынь» (1930); раман «Віленскія камунары» выйшаў у 1965 г.**

**Змяшчаем апавяданне М. Гарэцкага «Досвіткі», напісанае ў 1926 годзе.**

# ◆ ДОСВІТКІ ◆

Доўга цягнуцца зімовыя досвіткі. За вокнамі цёмна і лютая сцюжа, а ў сцюдзёнай хаце невясёла гарыць цямнявая лучына, нудна трынкаюць марудныя верацёны. Да свету яшчэ далёка-далёка!

Не пяюць удосвецця песень, і маўклівыя праллі толькі ціха думаюць свае ціхія досвітныя думы.



Але бяссонны дзядуля, размачыўшы лыкі і сеўшы ў кажусе на калодачку пасярод хаты, любіць гэтым часам развеяць сонны сум у маладых сваімі пераказамі аб розных прыгодах з даўняе мінуўшчыны.

Пляце дзядуля старадаўнія плятні і любіць іх, як свае лапці, а ўжо яго старэйшы ўнук, яшчэ і не дзяцюк, а толькі ладны хлопчык, што ні ў вошта, аднак, ставіць лапці перад ботамі, ужо ён не можа ўцерпець — і перабівае ціхую стройную плынь казання і слухання. Бунтуецца яго маладое сэрца супроць незразумелай для яго пакоры панскіх падданых.

— А каб на мяне, — кажа ён дзеду, — то ўзяў бы я добры кол, прыпільнаваў бы пана дзе-небудзь у зручным куточку ды так бы свіснуў яго па вуху, што ён бы і сваіх не пазнаў! Не стаў бы другі раз сячы людзей.

— Эх, братка, ты мой, братка! — усміхаецца на ўнука дзед. — Няўжо ж ты гэтак любіш біцца? Ці табе, такому маладому, так казаць! Брыдка гэта — біцца... Але быў у нас адзін: бывала, як яго сячы, возьме кол, стане ў кут, і не даецца. «Палезьце толькі! Першаму, кажа, растаўку мазгаўню». А потым уцячэ ў лес і бадзяецца дзён дзесяць. Але што ж? Недзе ж яму дзецца — вернецца сам або яго зловяць. Схопяць знянацку, звяжуць, пакладуць на ўслоне, пара людзей сядуць на ногі, пара на галаву, а трэцяя пара з двух бакоў так адлупцуюць беднага, што пасля яшчэ дзён колькі ляжыць ды стогне...

— Каб усе не даваліся, як ён, то не абсеклі б!

Дзед толькі засмяецца і кажа далей перарваную гісторыю.

— А каб на мяне, — зноў замінае дзеду ўнук, — узяў бы я карабочак сернікаў і добры пук саломы, выбраў бы я цёмную восенную ночку і так бы засвяціў у панскім двары, што пан той і сваіх бы не пазнаў.

— Эх, братка ты мой, братка! — усміхаецца дзядуля. — Лацвей табе цяпер казаць, — но тое было ў даўні час. Быў у нас гэткі адзін. Бывала, як толькі восень — гарыць гумно ў нашага пана. Згарэла раз, паставіў цераз год другое. Згарэла і тое, паставіў трэцяе. А пасля прыехалі к пану казакі, сагналі ўсіх людзей у двор, выбралі ад кожных дзесяці сем'яў па чалавеку, разлажылі іх голых на таку ў гумне. Прыйшоў пан, запаліў свечку ўвелькі з добрую качалку і ну па радоўцы падсмальваць задраныя бароды, дый пытаецца: «Не ведаеш, цераз чый грэх спалілася гуменца ў твайго пана?» — «Ой, паночку, змілуйцеся, не ведаю». Абышоў усіх, а ляжалі ў два рады, як снапы, — і ніхто не ведае... «Ну, то, кажа, як вы такія святыя, што ніхто з вас не мае грэху, — царства вам нябеснае!» Выйшаў з казакамі за вароты, сказаў заперці там наглуха і запаліць і гэтае гумно... Божухна-бацюхна! Пан багаты, што яму значыць спаліць гумно (пустое, без хлеба) і страціць сотні дзве падданых, калі ў яго лесу таго за колькі дзён вокам не скінуць, а падданых не адна тысяча. Завылі ўсе людцы, што стаялі ў вокнах, кінуліся да пана, але не з коллем, а з гарачымі слязьмі, каб не губіў невінаватых. Плачуць, галосяць, поўзаюць наўкол пана па зямлі, як ракі або чэрві. «Запальвайце! — крычыць пан. — Мае людзі, мой адказ!» Хацелі ўжо казакі паліць, аж крычыць з гумна адзін: «Мой грэх!» Выпусцілі ўсіх, а яго звязалі, павезлі некуды скрозь ноч. Дзейкалі ў нас людзі, што спаліў яго пан у лесе. Можа праўда, можа — не, толькі ўжо ён прапаў не-



 

З метадычнай паліцы настаўніка

# Вывучэнне верша „Асадзі назад!“

Верш Я. Коласа «Асадзі назад!» прываблівае чытача і слухача праўдзівасцю зместу, гутаркавай, лёгказапамінальнай формай, сялянскай дасціпнасцю ў падачы і тлумачэнні фактаў і з'яў жыцця. Падабаецца ў вершы гумар і асабліва сатыра, накіраваная супраць самаўладства.

Герой верша «Асадзі назад!» як і селянін з верша «Мужык» расказвае пра свае няўдачы неяк весела, нібы пасміхаючыся з іх. Гэта яшчэ адна з рысаў беларускага характару: быць перад ударамі лёсу не толькі стойкім, але і з ироніяй успрымаць іх. Між тым, няўдач у героя хоць адбаўляй. За яго не пайшла дзяўчына, ён не можа ні пазычыць хлеба, ні знайсці работу, ні вучыць сына. Гэтаму селяніну, які па розуму, па здольнасцях мог бы быць нават дэпутатам у Думе, усюды і заўсёды гавораць: «Асадзі назад!». І толькі тады, калі ён узбунтоўвае вёску, яму загадваюць выйсці наперад... для пакарання.

Якую нагрузку нясуць у вершы словы «асадзі назад»? Чаму яны паўтараюцца ў канцы кожнай страфы? Як называецца такое паўтарэнне аднаго і таго ж радка? Правільна, рэфрэнам. А паўтараецца радок для таго, каб узмацніць думку, падкрэсліць вывад аб бяспраўным становішчы сялянства. Гэтае штодзённае «асадзі назад!» і выклікала ў героя пратэст, штурхнула яго на бунт. Ці мог ён адбыцца ў год, якім датаваны верш? Калі так, то чаму, калі не — дык таксама чаму? Паразважайце над гэтым дома, а зараз знайдзіце ў вершы выразы, якія былі ўласцівы для тагачаснай мовы сялян. Так, «б'юся я, як гад», «дзеўцы нос паткнулі», «мне нагу падставіў», «пруся я з мяшэчкамі». Аб чым яны сведчаць, якое іх значэнне ў вершы? Аб тым, што пісьменнік выдатна ведаў гутарковую мову народа. Усклаўшы яе ў вусны героя аўтар верша зрабіў надзвычай успрымальным для чытача, бо «сваё», роднае, лепш і разумеецца, і запамінаецца.

Як мы ўжо гаварылі, верш «Асадзі назад»! заключае ў сабе гумар, сатыру. Успомнім, **што называецца гумарам, сатырай, якая паміж імі розніца**, дзе і ў чым яны ў вершы. Так, гумар гэта жарт, смех без насмешкі. Калі герой паведамляе, што ад яго сусед Кандрат адбіў дзяўчыну, што аднойчы яго не пусцілі паглядзець зблізку на парад — чытач, як і сам герой, можа толькі паўсміхацца з такой яго незадачлівасці. Аднак чым далей расказвае селянін, тым больш смех чытача становіцца смехам праз слёзы, бо смяяцца з таго, што герою верша няма ў што апрануцца, няма чаго есці, нельга. Смех напаўняецца злосцю, пераходзіць у іронію, сарказм. Нарэшце, калі паяўляецца прыстаў, і, крыкнуўшы на селяніна «мядзведзь», загадвае гарадавым біць яго, чытач сатырычна здзекліва, пагардліва, варожа — ставіцца да царскіх атужак і да ўсяго таго сацыяльнага ладу, які яны ахоўваюць і пры якім чалавека не лічаць чалавекам.

* * *

Вось мы і пазнаёміліся з асобнымі творамі паэзіі Я. Коласа. Цікава, якая розніца паміж паэзіяй Я. Коласа і Я. Купалы? Абодва гэтыя паэты пісалі па-беларуску, пісалі па сутнасці пра адно і тое ж: пра жыццё і побыт селяніна, рост яго свядомасці і г.д. Розныя назвы твораў? Так, але можна прывесці і аднолькавыя, напрыклад «Мужык» Я. Купалы і «Мужык» Я. Коласа. Відаць адрозненне трэба шукаць у характары талентаў гэтых пісьменнікаў.

Падказаць сёе-тое нам могуць ужо іх псеўданімы. У слове «Купала» ёсць нешта таямнічае, казачна-фантастычнае, звязанае з той пушчай, у якой калісьці людзі шукалі папараць-кветку. «Колас» жа — слова — «палявое» больш «зямное», рэальнае. У таленце Купалы пераважае лірычны, рамантычны пачатак. Ён перш-наперш звяртае ўвагу на «высокае», на пачуццё, перажыванне, яго зменлівасць. Купала — паэт-лірык. Коласа ж больш цікавіць матэрыяльны, рэчавы свет, «будзённае». Ён схільны да канкрэтнай дэталі, да развагі і роздуму.

Гэты эпічны талент Я. Коласа — паэта з магутнай сілай праявіўся ў яго «Новай зямлі» — эпахальным творы беларускай літаратуры. (АК)

# ЭХ, ДАРОГІ



Добрая дарога, добрая маставая ў вёсцы аблягчае жыццё, ашчаджае нервы, упрыгожвае мясцовасць. Лягчэй нагам і весялей на сэрцы, калі ідзецца па бруку, а не па балоце. А ўжо коні напэўна не могуць аддзякавацца людзям, якія адрамантавалі дарогу або вуліцу, па якой часта трэба везці нялёгкую паклажу на возе. Добрыя дарогі сведчаць аб культуры людзей гэтай мясцовасці.

У грамадзе Мілейчыцы ў галіне будовы дарог і бруку ў вёсках многа зроблена. У гэтым аграмадная роля грамадскіх чынаў. І калі зрабіць агляд гэтых чынаў за 10 год, дык нельга не сказаць, што зроблена многа карыснай работы. Не мала папрацавалі сяляне пры пабудове дарогі Мілейчыцы-Харашэва — Гарноза. На гэтым амаль 8-кіламетравым адрэзку дарогі грамадскай працы ўложана каля паўтара мільёна злотых. 40% запланаваных коштаў выканана грамадскай працай.

Жыхары грамады Мілейчыцы пры дапамозе грамадскага чыну збудавалі 4-кіламетравы адрэзак на дарозе Мілейчыцы—Клюковічы і 7 км дарогі, якая спалучае Мілейчыцы з Рагачамі.

У Мілейчыцкай грамадзе вёскі Паканева, Харашчэва, Валкі, Мядзвежыкі, Мікулічы, Навасёлкі і Рагачы маюць прыгожыя брукаваныя вуліцы.

Гаворачы аб грамадскіх чынах пры будове дарог і маставых, трэба ўспомніць аб асноўным арганізатары грамадскіх чынаў. З'яўляецца ім Мікалай Такаюк, які ўжо 10 год у гэтай галіне працуе і наглядае за ўсімі работамі пры будове дарог і маставых. Нялёгкая яго праца, а гэта таму, што не ўсюды ахвотна ўключаюцца людзі да грамадскай працы. Міколе Такаюку і членам камісіі да грамадскіх чынаў, шмат прыходзіцца і папахадзіць, і панервавацца, пакуль рэалізуецца той ці іншы чын.

Нялёгка гэтаму чалавеку працаваць і таму, што ён даязджае да працы з вёскі Паграбы адлеглай ад Мілейчыц у 12 км. Але не гледзячы на ўсе гэтыя перашкоды Мікола Такаюк вельмі добра спраўляецца са сваімі абавязкамі, і таму ў ГРН у Мілейчыцах высока ацэньваюць яго працу.

**Тэкст і фота М. Хмялеўскі**

# Беластоцкія дажынкі

Ваяводскія ўлады дайшлі да вывaду, што дагэтуляшнія формы святкавання ўраджаю не адпавядаюць мэтам гэтага мерапрыемства і пастанавілі рэарганізаваць свята. Перш за ўсё атрымае яно большы ранг.

Ваяводскія дажынкі плануецца правесці ў Беластоку 31 жніўня. Будуць яны спалучаны з сельскагаспадарчай выстаўкай, у якой возьмуць удзел усе паветы Беласточчыны. Выстаўка атрымае сталае месца і будзе арганізавана кожны год. Дажынкі будуць мець таксама багатую мастацкую і спартыўную частку, у якой прымуць удзел калектывы самадзейнасці і спартсмены з усяго ваяводства.

Падобныя святкаванні адбудуцца і ў паветах.

Падрыхтоўка да сёлеташніх беластоцкіх дажынак ужо пачалася. Нядаўна ў ваяводскай радзе адбылася спецыяльная нарада прысвечана гэтай тэме. На ёй паклікана рабочыя камісіі (каардынацыйная, выставачная, гаспадарча-парадкавая, арганізацыйна-прапагандовая).

Трэба спадзявацца, што сёлета дажынкі будуць сапраўдным вялікім святам нашай вёскі. (рл)

дзе на векі, ніколі не вярнуўся. А начальству пан сыпнуў грошы, каб не слухала людскіх дзейканняў і не шукала чалавека. Сам жа пан быў і начальнік...

— Каб усім кагалам кінуліся на пана, то не прапаў бы чалавек, — спіраецца задуманы хлапец.

— Эх, братка ты мой, братка! — ківае галавою дзед. — Паглядзім што-то ўжо будзе з вас маладых ды бойкіх.

Маўчыць тады, бывала, малады ўнук.

І так цягнуцца доўгія-доўгія зімовыя досвіткі... Да свету яшчэ далёка, і кажа дзед, як загінуў малады Васіль, што кахаў харошую дзяўчыну-немку і любіў яе маляваць, і як звялася па смерці дзедавага дзеда багатая пчэльня, і як трасла дзедавага дзядзьку трасца, здаўшыся яму начою ў лесе нямою бабаю...

— Не ймецца веры, дзедку, у тое, што ты кажаш, — усміхаецца нарэшце такі і ўнук. — Трасца не можа здацца бабаю, бо гэта ёсць толькі хвароба.

— Можа і так, — пакорна згаджаецца дзядуля, — а людзі кажуць, і я кажу... Мне самому нічога ніколі не здавалася. Вам жа, маладым, лепей тое ведаць, што вам у школе кажуць, а нам, цёмным, што... Што мы ведаем?

— Як чалавек хворы, дык яму тады здаецца ў хворых мазгах... — спяшаецца ласкавей сказаць унук, бо цяпер жаль ён чуе да свайго цёмнага, пакорнага дзядулі...

**Максім Гарэцкі**

# СКАРГІ НА „ПАНШЧЫНУ“ Ў НАДЛЯСНІЦТВАХ

Ужо ад доўгага часу невясёлую ўвагу звяртае на сябе Крынкаўскае надлясніцтва ў Пачапку. «Ніва» друкавала карэспандэнцыі, надлясніцтва ў Пачапку абуралася на гэтыя карэспандэнцыі, бо былі яны крытычныя. Рэдакцыя атрымоўвала за подпісам надляснічага патрабаванні высніць на старонках нашага часопіса, што гэтыя карэспандэнцыі няслушныя ў сваёй крытычнасці і г.д.

Каміцель з надлясніцтвам у Пачапку нічуць не абціхла, наадварот, штораз галасней робіцца аб ім.

Вось што нядаўна расказвалі мне разлаваныя гаспадары: Крынкаўскае надлясніцтва ў Пачапку мала лічыцца з гаспадарамі, з іх часам, які трацяць на афармленне куплі дрэва; заведзена дзіўны звычай абавязковай нарыхтоўкі «капальнокоў» пры куплі дрэва; можна сказаць, заведзена своеасаблівую паншчыну з той розніцай, што часткова аплочваемую. Беспардонны метад кантактаў з гаспадарамі пераймае таксама і суседняе Валілаўскае надлясніцтва, кемлівы вучань Пачапка.

Гаспадары нагаварылі мне вельмі многа непрыемнага пра гэтыя надлясніцтвы. У злосці напэўна шмат у чым перасалілі. Ды справа не ў тым, каб дакладна мерац праўды і няпраўды; справа ў тым, што кепска дзеецца ў пачапкоўскіх бюрах — і ў валілаўскіх пачынаецца тое ж.

Усе скаргі гаспадароў прадставілі мы аднаму з дырэктараў у дырэкцыі Дзяржаўных лясоў. Аказалася, што і тут Крынкаўскае надлясніцтва мае дрэнную апінію. Прымушванне гаспадароў да абавязковай нарыхтоўкі «капальнюкоў» пры аказіі куплі імі дрэва на зіму з'яўляецца зусім ненармальнай з'явай, проста недапушчальным метадам рэалізацыі планаў лясной гаспадаркі. Нельга таго тлумачыць недахопам рабочай сілы ў сітуацыі, калі Супрасляўскае надлясніцтва патрапіць вербаваць рабочых, менавіта, з ваколіц Крынак на працу ў сваіх лясах, пакрываючы кошты пераезду і т.п. Узнікае пытанне: чаму людзі шукаюць заробкаў аж у далёкай Супраслі, адлеглай на сорак кіламетраў, а ў блізкім Пачапку не, не шукаюць? Дрэнныя адносіны паміж надлясніцтвамі і вёскамі не варожаць дабра. Адзін з гаспадароў сказаў: — Магу хоць зараз паказаць мясціны ў лясах каля Радуніна, дзе стаяць мёртвыя, спарахнелыя дрэвы, якіх нельга купіць. Дырэктар высніў, што такія дрэвы можна купляць у неабмежаванай колькасці, плацячы ўсяго па дзесяць злотых за 1 мп. Гэта нават неабходнае для захавання здароўя лесу, бо ў такіх дрэвах заводзяцца розныя шкоднікі, якія знішчаюць навакольныя здаровыя дрэвы. Толькі камусьці не хочацца заняцца продажам таго ўсяго.

Увогуле выносіцца такое ўражанне, што ўсенькія непрыемнасці, якія выніклі паміж гаспадарамі і ўспомненымі надлясніцтвамі маюць свае прычыны ў выгодніцкім падыходзе да спраў, мо нават у звычайным гультайстве некаторых апаратчыкаў, не выключаючы і кіраўніцтва. Як жа іначай можна вытлумачыць мнагалікія факты, калі гаспадары з заполянскіх вёсак вымушаны некалькі разоў ездзіць па дваццаць кіламетраў у надлясніцтва, каб дабіцца куплі і права вывазу дрэва на зіму, на апал. Прыезды і ад'езды «з нічым» цягнуцца месяцамі. Чаго дзівавацць, што нарадзілася столькі гневу, злосці, проста нянавісці да кожнага, хто есць хлеб лясной адміністрацыі на Крыншчыне.

**К. Янкоўскі**

# НЕ БІ МЯНЕ, МАМА!

Трохгадоваму хлопчыку і пяцігадовай дзяўчынцы вельмі хацелася паездзіць на санках.

— Мама, пусці нас на двор.

Мама сунула штурхача аднаму і другому, і дзеці вымушаны былі сядзець дома і глядзець праз акно на пушысты снег.

Надвячоркам яна выпусціла дзяцей на санкі. Вазіла дзяўчынка свайго брацiка. З радасці смяяліся абодва. Але вось бяда. Хлопчык выпаў з санак і разбіў носік. Пацякла кроў. Дзяўчынка перапалохалася! Што цяпер рабіць? Хлопчык плача, і дзяўчынка плача. Дзяўчынка абдымае хлопчыка, выцірае рукавіцаю яму кроў і горка плача і просіць брацiка.

— Вовік не плач, Вовік!

Надышоў якраз я на гэтую трагедыю дзяўчынкі. Хустачкаю атуліў хлопчыку носік і гавару. — Дзяўчынка, а дзе ж ваша хата? Вы ж ужо памерзлі.

— Не, — крычыць дзяўчынка, — не пайду я дахаты. Мама мяне моцна-моцна будзе біць. Плача далей і абдымае свайго брацiка. Я запэўніваў дзяўчынку, што мама не будзе біць, што гэта ж самае можа стацца і маме. Але дзяўчынка ведала, што яе чакае. І аднекуль з'явілася мама.

— Гэтак ты пільнавала, нягодная. І дзяўчынку пачала біць па твары, па галаве і па руках.

— Я табе ў хаце пакажу яшчэ.

І напэўна моцна пакрыўдзіла сваё роднае дзіця.

Ох ты, мама! — мама без сэрца і розуму! Гора такім дзеткам.

**М. Сваяк**

# ПЕРАДАВЫЯ І АДСТАЛЫЯ

Да перадавых у Бельскім павеце адносяцца тыя гаспадары, якія жывуць на тэрыторыі ГРН **Тапчэва, Андрыянкі, Вышкі і Нурэц.** У мінулым гаспадарчым годзе (гаспадарчы год лічыцца ад чэрвеня) высявалі ў сярэднім па 80 кг. NPK (мінеральных угнаенняў) на 1 га ўгоддзяў.

На тэрыторыі ГРН **Боцькі, Андрыянкі, Храбалы і Рутка** ўведзена абавязак прымянення мінеральных угнаенняў згодна з сеймавым законам. У сярэднім колькасць прымяняемых тут угнаенняў на 7 кг. большая ад сярэдняй паветовай, якая сягае 54 кг. Выключэннем з'яўляюцца гаспадары з тэрыторыі ГРН **у Храбалах,** дзе паказчык прымянення ўгнаенняў вельмі нізкі.

Найбольш **адсталымі** ў галіне прымянення праграмы ўдабрэння ўгоддзяў з'яўляюцца гаспадары з тэрыторыі ГРН **Храбалы, Пасынкі, Рыбалы, Грыгораўцы і Снежкі.**

Агульна аднак трэба сказаць, што справа рэалізацыі аграмінімум праводзіцца тут правільна. У 1967/68 годзе ў павеце распродана на 47 працэнтаў больш угнаенняў, чым у папярэднім годзе. А да канца снежня гэтага гаспадарчага года продана 9 тысяч тон угнаенняў, што абазначае ўзрост, да аналагічнага часу мінулага года, на 55 працэнтаў. (К)

 

## БЕЛАРУСКАЯ МОДА



Паліто з футра цяляці.
Фота: В. Казлова

## Нацыянальныя меншасці ў Венгрыі

Нядаўна Інстытут грамадскіх навук ЦК вянгерскай партыі выдаў кніжку др-а Ласла Кевага «Нацыянальная праблематыка — нацыянальная палітыка».

Аўтар сцвярджае, што нацыянальныя меншасці ў Венгрыі нямногалікія — па сутнасці Венгрыя з'яўляецца адзінанацыянальнай дзяржавай.

Далей піша:

«Нацыянальныя меншасці ў Венгрыі пражываюць паблізу сваіх нацыянальных дзяржаў. У гісторыі можна дакладна прасачыць працэс, у выніку якога групы гэтыя адарваліся ад свайго народа, яшчэ да ўзнікнення іх нацыянальнай дзяржавы. (...) патрэбна прысвяціць больш чым дагэтуль увагі гэтым групам насельніцтва (...). Калі пераанлізуем гэтае пытанне, можам адкрыць пэўную заканамернасць: нацыянальныя меншасці, пражываючыя ў Венгрыі, могуць стацца памосцем паміж венграмі і суседнімі народамі. Будову такога памосця ўжо пачата, а дасягнутыя вынікі з'яўляюцца нямалымі».

У мінулым навучальным годзе існавала 24 двухмоўныя пачатковыя школы з лікам 2.135 вучняў, а дваццаць тысяч дзяцей было вучнямі школ, у якіх навучаецца іх родная мова, як прадмет. На тэрыторыі Венгрыі існуюць: тры нямецкія гімназіі, дзве славацкія, па адной — румынская і сербахарвацкая. Утворана шмат бібліятэк і іншых нацыянальных устаноў. (ся)

## ТЭХНІКА

### Новая слава «крылатага металу»

За верную службу авіяцыі алюміній атрымаў назву «крылатага металу». У наш касмічны век у яго з'явіліся сапернікі, скажам, тытан, які злучае ў сабе лёгкасць алюмінія з трываласцю сталі. Ну чым не касмічны матэрыял! Але вось тут і высветлілася, што для касмічных палётаў больш падыходзіць алюміній. Праўда, практыка пералётаў у космас паказала, што небяспека сутыкнення карабля з метэарытам не такая ўжо вялікая. Аднак пры далёкіх палётах яна рэзка ўзрастае.

Вучоныя зацікавіліся, які ж матэрыял лепш ахавае карабель пры сустрэчы з метэарытам. Для гэтага невялікія металічныя пылінкі пачалі разганяць да скорасцей, блізкіх да касмічных, — да 35 кіламетраў у секунду і накіроўваць іх на абшыўку з тытану. І што ж? Сутыкненне з такім штучным метэарытам аказалася для дзесяціслойнай абшыўкі з тытану гібельным. Высветлілася, што абшыўка была прабіта не столькі самім матэрыялам, колькі абломкамі слаёў, якія дзейнічалі накшталт «другасных» метэарытаў. Затое калі на шляху штучнага метэора паставілі сценку з алюмініевых плітак, вынікі сутыкнення атрымаліся зусім іншыя. Метэарыт прабіў у першым слоі толькі маленькую адтуліну. Выбіты метал імгненна ператварыўся ў воблачка плазмы, ціск дасягнуў мільёнаў атмасфер. Імклівае воблачка прабівала ў другім слоі адтуліну размерам у далонь, а ў трэцім — размерам у талерку. Аднак ужо на шостым слаі энергія выбуху канчалася.

## КУЛІНАРЫЯ

### Бёф - строганаў

Рэпчатую цыбулю дробна нарэжце і падсмажце з маслам да палавіны гатоўнасці. Пакладзіце нарэзаную ялавічыну (яе трэба пасыпаць соллю і перцам) і смажце 5—8 мінут на моцным агні, памешваючы відэльцам. Мяса пасыпце пшанічнай мукой, перамяшайце і працягвайце смажыць яшчэ 2—3 мінуты. Уліўшы смятану, усё добра размяшайце і давядзіце да кіпення (але не кіпяціце). Дадайце соус і соль па смаку.

Смажаную бульбу можна падаць разам з мясам або асобна. Перад падачай пасыпце гарнір і мяса зяленівам пятрушкі або кропам.

На 500 г ялавічыны — 2—3 цыбуліны, шклянка смятаны, 1 сталовая лыжка мукі, 3 сталовыя лыжкі топленага масла, 700—800 г бульбы.

# Псіхолагі аб жанчынах і мужчынах

У вялікім амаль пустым пакоі стаіць чалавек. Ён ведае, што за ім назіраюць, што ён з'яўляецца «прынадай» для другога чалавека, які зараз увойдзе ў пакой. Дарэчы, нічога страшнага не адбываецца — проста двое людзей пагавораць адзін з другім на нейкую тэму, а псіхолагі, прыдумаўшыя гэты эксперымент, змераць адлегласць, на якой знаходзіліся субяседнікі. Вось і ўсё. І так шмат разоў. Адзін чалавек ведае, які дослед вядзецца ў пакоі, і таму стаіць нерухома, а другі можа стаяць там, дзе яму падабаецца. Але такі просты эксперымент даў нечаканыя вынікі. Выяснілася, што існуе выразная сувязь паміж «адлегласцю размовы» і ростам субяседнікаў. А іменна чым вышэйшы мужчына, тым бліжэй падыходзіць ён да «прынады», і наадварот, чым меншы яго рост, тым далей ён хоча знаходзіцца ад свайго субяседніка. А ў жанчын наглядалася проста супрацьлеглая залежнасць.

Група аксфордскіх псіхолагаў, якой кіраваў М. Аргайл, прапануе зусім праўдападобнае тлумачэнне гэтай дзіўнай з'явы. У нашым грамадстве стварылася своеасаблівая «культурная норма» — мужчына павінен быць высокі, а жанчына — наадварот, мініяцюрнай. І хоць у жыцці не заўсёды бывае іменна так, мы ўсе падсвядома імкнемся падагнаць жыццё пад тэорыю. Таму рослаяму мужчыну прыемна стаяць побач са сваім субяседнікам, а высокая жанчына, наадварот, стараецца адысці далей, каб схаваць свой недахоп.

Адсюль вынікае, што не трэба вельмі набліжацца ў час размовы да высокай субяседніцы або малаэрослага субяседніка — яны будуць адчуваць сябе няёмка.

І таксама не прапускайце магчымасці зрабіць чалавеку прыемнасць — падыходзьце бліжэй да мініяцюрнай жанчыны або да рослага мужчыны — хай адсутнасць або існаванне дадатковых дзесяці сантыметраў росту дасць ім радасць і прыемнасць.



З эксперыментаў, праведзеных групай Аргайла, можна зрабіць яшчэ некалькі небескарысных вывадаў.

Псіхолагі зацікавіліся, напрыклад, роллю вачэй у час размовы. Бо ж менавіта позіркам мы даем зразумець, што скончылі сваю думку і гатовы выслухаць «супрацьлеглы бок», што згодны або не згодны з субяседнікам, што здзіўлены, што вам прыкра і г.д. Значыць, калі ў аднаго з двух размоўцаў прыкрыць верхнюю частку твара, другі павінен неяк рэагаваць на гэта. І сапраўды аказалася, што гаварыць з «нябачным» намнога менш прыемна. І ў той жа час уласная нябачнасць не вельмі перашкаджае. Аксфордскія вучоныя лічаць, што ў гэтым вінавата ўсім вядомая адваротная сувязь — мы прызвычаіліся ў час размовы атрымліваць пацвярджэнне або супраціў на нашы словы. Але цікава, што жанчыны значна мацней рэагуюць на адваротную сувязь, чым мужчыны. Выражаецца гэта своеасабліва: мужчыны гавораць з «нябачным» субяседнікам актыўней, а жанчыны — наадварот, замаўкаюць.

Мараль: калі хочаш міла паразмаўляць з дамай — проста і адкрыта глядзі ёй у вочы. Калі ж яе балбатня стаміла цябе — адводзь вочы ўбок, старайся перасесці ў цень. Тое самае рабі, калі хочаш, каб твой субяседнік — мужчына «выгаварыўся». А зачыніць фантан яго красамоўства таксама проста — глядзі неадрыўна яму ўвочы.

(Я)

## Чвэрць стагоддзя назад




Баравой выскачыў з памяшкання разам з немцамі. Адзін з жандараў стрэліў па ім, але не трапіў. У цемры жандары не маглі разабрацца, думалі, што ўцяклі мы абое. Гналіся яны пару кіламетраў, пакуль не напароліся на малую рэчку. Баравой скочыў у яе і пераплыў. Жандары не адважыліся купацца ў лядовай ванне, пахадзілі па беразе, пастралялі па чароце і павярнулі.

Калі я стаяў у сенях за бочкай капусты і ламаў галаву, як выбрацца з гэтай хаты, мне і на думку не прышло, што немцы зробяць такое глупства, пакінуць хату без нагляду. Калі б я гэта ведаў, мог бы не спяшаючыся, з папяроскай у зубах, выйсці з хаты Сідарука. У мяне не было б тады непрыемнай сцэны з Мілерам, не было б шрамы на твары, але не было б і Вальтэра — каштоўнай памяткі, якую захоўваю па сённяшні дзень.

Пасля няўдачнай пагоні жандары вярнуліся ў Кузава да хаты Сідарука. Зноў акружылі яе і доўгі час не адважваліся ўвайсці ў сярэдзіну. Урэшце шэфу жандармерыі з Чаромухі прышло на думку прывесці некалькі сялян. Хай яны паглядзяць, што дзеецца ў хаце. Прывялі іх каля гадзіны адзінаццатай. Толькі пасля таго, як сяляне сцвердзілі, што ў хаце партызан няма, увайшлі ў яе жандары. Яны вынеслі з хаты забітага жандара і яшчэ жывога, параненага лейтэнанта Мілера. Занеслі яго ў суседнюю хату, пасадзілі на лаўцы, загадалі дачцы гаспадара трымаць яго ў такой позе, пакуль не прыедзе хуткая дапамога, а таксама катэгарычна забаранілі даваць яму піць. У Мілера ў двух месцах былі прастрэлены грудзі, сканаў каля гадзіны дванаццатай.

Гітлераўцы сарвалі ў хаце Сідарука падлогу, разбілі печ, аднак сям'ю пакінулі ў спакоі. Забаранілі толькі аказваць раненай жонцы Сідарука якуюнебудзь лекарскую дапамогу. Суседзі паведамілі Сідарука аб здарыўшымся ў яго хаце. Той доўга думаў, што рабіць. Начальнікам адрэзка аховы чыгункі быў нямецкі афіцэр, усім вядомы як «парадачны немец». Сідарук вырашыў параіцца з ім. Не сказаў, вядома, кім мы былі ў сапраўднасці. Сказаў, што прыехаў да яго сваяк з Бельска з невядомай асобай. Паддаўся просьбе, пусціў пераначаваць, не падазраючы, што гэта так кончыцца.

Немец сказаў Сідаруку:

— Калі ты не ўмешаны ў ніякую бандыцкую дзейнасць, то ідзі і заявіся ў жандармерыю. Скажы, што мог схавацца, але адчуваеш сябе не вінаватым, таму і з'яўляешся. У крайнім выпадку, выратуеш хоць сям'ю.

Сідарук паслухаў гэтай парады. Жандары арыштавалі яго, каталі страшэнна: з яго спіны сышла скура з кавалкамі цела. Большасць жыхараў вёскі, баючыся адплаты, скрылася, засталіся толькі старыя. Пасля некалькіх дзён прыехаў у Кузава амсткамісар з Кляшчэляў, сабраў старых і аб'явіў ім, каб людзі вярталіся дамоў, каб не баяліся рэпрэсіі, бо вёска выканала абавязак: згодна з загадам нямецкіх улад — паведаміла жандармерыю аб прысутнасці ў вёсцы падазроных асоб, якія аказаліся бандытамі.

Спачатку людзі думалі, што гэта хітрасць, але памалу пачалі вяртацца.

Скатаванага Сідарука перавезлі ў турму гестапа ў Бельску. Віт атрымаў ад Косці заданне дбаць пра яго. У Бельску Сідарука не білі, не здзекаваліся над ім. Потым здарылася так, што акты яго справы выслана «памылкова» ў Тыльзіт, а яго самога — у беластоцкую турму. У гэтым часе немцы апарожнівалі турму ў Беластоку, высылаючы транспарты вязняў у канцэнтрацыйныя лагеры. Адным з іх ад'ехаў і Хведар Сідарук. Прайшоў ён не мала. Тройчы перакідалі яго з аднаго лагера ў другі. Працаваў у каменяломах. Там зламаў нагу. Ляжаў у шпіталі. У 1945 годзе вызвалілі яго саюзнікі. У 1946 годзе вярнуўся да сям'і. Член ЗБоВіД, памёр пенсіянерам 30.XII.1966 года.

Часта чытаючы кніжкі пра вайну, здаецца мне, што некаторыя апісаныя ў іх карціны неверагодныя, выдуманыя, або, у крайнім выпадку, упрыгожаныя. Бо практычна, здаецца, так не магло быць. Выпадак у хаце Сідарука я стараўся перадаць дакладна. Зрэшты, жывуць сведкі, якія бачылі гэту карціну. У той самай хаце жыве ўдава, ваенная інвалідка, Вольга Сідарук. Жывуць яго дарослыя дзеці. У гэтай хаце, у тым самым месцы, стаіць яшчэ і ложак са шчыткам прадзіраўленым нямецкай куляй. Як і раней, стаіць на сваім месцы вёска Кузава. З той толькі розніцай, што цяпер яна багацейшая. Жывуць у ёй людзі, якія добра памятаюць тыя часы, калі толькі наеліся страху, чакаючы нямецкай адпомсты. Успамінаюць часам яны, як гэта ў вайну двое партызан вывелі ў поле трыццаць гітлераўцаў.

Тое, што я сёння жыву, што выйшаў цэлым з Кузава абавязаны не асабістай адвазе. Не веру, каб былі такія людзі, што не баяцца смерці. Баяцца яе ўсе, хай толькі ўбачаць яе перад сваімі вачыма. Толькі адны патрапяць перамагчы страх і захаваць здольнасць лагічнага думання і паводзін, іншыя



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## Лекар не ратаваў дзіцяці

Здарылася гэта 20 лютага г.г. у вёсцы Галады. У малой дзяўчынкі, дачкі Івана Багінскага, быў моцны крывацёк. Не памагло ратаванне хатнім спосабам. Бацька паведаміў хуткую дапамогу ў Бельску Падляшскім. Праз нейкі час прыбыў лекар. Карэтка затрымалася 50 метраў ад Івана Багінскага. Далей самаход не мог даехаць. Бацька чакаў з нецярплівасцю лекара. Калі лекар вылез з самахода і тут бяда, яму налезла снегу за халяву. Лекар з абурэннем сказаў Івану прынесці дзіця да суседавай хаты. Іван забег да хаты, глянуў на дзіця і аж задрыжэў ад злосці. У дзіцяці ішла кроў з носа і рота. Выбег з хаты і так прасіў лекара, каб зайшоў да хаты ратаваць дзіця. Усё дарма, лекар ніяк не згаджаўся. Тут і суседзі прыйшлі з дапамогаю нешчасліваму Івану, прачысцілі яны дарогу да самых дзвярэй. І лекар ад'ехаў ад Іванавай хаты не даўшы дзіцяці дапамогі. Дзіцяці з мінуты на мінуту было горш. Іван быў аднак вымушаны везці дзіця да лекара прыватным самаходам. Дапамогу лекар тады даў, калі завезлі дзіця ў бальніцу ў Бельску Падляшскім. Аднак Іван Багінскі хацеў даведацца прозвішча лекара. Каго б не спытаў, ніхто нічога не ведаў, проста ўкрывалі гэтага лекара, які так дрэнна паступіў.

**Сцяпан Грыгарук**
**Галады**

## Чыжоўскі сельгасгурток

Школьная зала ў Чыжах не магла памясціць усіх прыбыўшых на справаздачна-праграмны сход сельскагаспадарчага гуртка. Частка людзей стаяла ў калідоры. Усе з зацікаўленнем слухалі гуртковуцаў аб іх працы і дасягненнях. А вось якія яны.

Сельгасгурток мае 11 трактараў з усімі патрэбнымі да іх машынамі. У сярэднім на кожны трактар у мінулым годзе выходзіла па 1150 гадзін працы. 98% выкананай трактарамі працы было ў сельскай гаспадарцы. Да гуртка належала 83 гаспадары. 34 члены было прынята на гэтым жа сходзе. Сельгасгурток апрацоўвае таксама зямлю з Дзяржаўнага фонду. Там вырошчвалі лён, які даў 18 тыс. зл. Бетанярка гуртка дала 3100 зл. даходу. У мінулым годзе машынамі гуртка з мэтай ліквідацыі пустазелля, шкоднікаў і хвароб было апырскана і апылена 77 га сельскагаспадарчых культур. Машынамі было рассыпана 175 тон вапны на заквашаных глебах.

Сельгасгурток у 1968 годзе выпрацаваў 37 308 зл. чыстага даходу. З гэтай сумы ўдзельнікі зацвердзілі 12 тыс. зл. на культурна-асветныя справы і 9 тыс. зл. на фонд развіцця сельскай гаспадаркі. Частку грошай прызначана таксама на ўзнагароды і на арганізаванне дзяцінца падчас найбольшых палявых прац. Пастаноўлена таксама, што ў гэтым годзе трактарамі грамадскім чынам будзе ўнесена 1000 гадзін працы пры пабудове дарог. Кошты нафты аплоціць мясцовы прэзідыум ГРН. Гурток запланаваў у гэтым годзе купіць шмат машын, у тым ліку і 2 трактары.

На заканчэнне варта падкрэсліць добрую працу рэвізійнай камісіі і бухгалтара Аляксандра Прафірука.

**Віталіс Назарук**
**Гайнаўка**




**Дарагое Сэрцайка!**

Паўгода таму я пасябравала з Ванем. Ваня перад гэтым «хадзіў» да маёй сяброўкі Марысі. Пасля нейкага часу яны разышліся, і ён пачаў заляцацца да мяне. Ваня мне вельмі падабаўся і падабаецца. Я маю 24 гады і трэба было б ужо выходзіць замуж, бо мае сяброўкі павыходзілі. Ваня, хоць жыве на гаспадарцы пры бацьках, працуе манцёрам. Ездзіць усё па «тэрэнах». Нядаўна ў вёсцы загуло: Ваня мае дзяўчыну ў нейкай вёсцы. Яна спадзяецца ад яго дзіцяці. Што рабіць? Пры сустрэчы з Ванем ён сказаў, што гэта не яго будзе дзіцё, што да яе ўсе «хадзілі», і кажа, каб як найхутчэй ісці ў загс, то яна адчэпіцца ад яго. Што рабіць, каму верыць? Бацькі не дазваляюць мяшацца мне ў гэтыя справы, але мне Ваня падабаецца.

**Ліда**
**з Сямяціцкага**

Дарагая Ліда! Бацькі твае маюць рацыю. Калі табе ўжо так залежыць на Вані, дык пачакай, пакуль справа не высніцца. У тым выпадку не раю табе верыць словам Вані, бо ўсе хлопцы, якія пакідаюць сваіх нарачоных у такім становішчы, гавораць ідэнтычна, як табе гаварыў Ваня. Падумай, цяпер першынство да Вані мае «яна». Дзіцё мусіць мець бацьку. Ведай, Ліда, што калі выйдзеш за Ваню, калі ён вымушаны будзе плаціць аліменты, дык жыццё гэтае не будзе зайздросным. Праўда, бывае і інакш, але ўсё такі раю табе пачакаць аж высніцца справа да канца. Не спяшайся, у тым выпадку лепш спазніцца.

**Сэрцайка**

## У БЕЛЬСКІМ ЛІЦЭІ

У Бельскім беларускім ліцэі вучні адзінаццатых класаў рыхтуюцца да матуральных экзаменаў і выбіраюць вышэйшыя ўстановы, у якіх будуць прадаўжаць навуку ў далейшым. Каб даць магчымасць вучням дакладна пазнаёміцца з умовамі і патрабаваннямі ў час уступных экзаменаў на вышэйшыя ўстановы, дырэкцыя ліцэя арганізуе сустрэчы з былымі выпускнікамі, цяпер студэнтамі і выкладчыкамі. Вельмі важныя і цікавыя сустрэчы адбыліся ў лютым. 20-га лютага Бельскі беларускі ліцэй наведаў адзін з выкладчыкаў вышэйшай інжынерскай школы ў Беластоку. Сустрэча адбылася ў прыемнай і сардэчнай атмасферы. Выкладчык пазнаёміў з паасобнымі аддзеламі ўстановы. Затым падаў пунктацыі ў час экзаменаў і магчымасці дастацца ва ўстанову. Сярод вучняў адзінаццатых класаў некалькі асоб выказала ахвоту паступіць на ВСІ.

Другая сустрэча адбылася 26 лютага. Госцем у ліцэі быў былы абсальвент ліцэя, доктар хімічных навук, выкладчык Вайсковай тэхнічнай акадэміі — Міхал Сычэўскі. Сустрэча найбольш зацікавіла хлопцаў. Яны выслухалі аб умовах навукі і патрабаваннях, аб працы пасля заканчэння навукі ў Акадэміі. Апрача таго вучні даведаліся аб тым, як вучыўся сам выкладчык.

Падрыхтоўка да матуральных экзаменаў і на вышэйшыя ўстановы не агранічваецца да сустрэч.

У ліцэі арганізаваны гурткі зацікаўлення пад кіраўніцтвам настаўнікаў напр. польскай мовы, геаграфіі, хіміі. У гэтых гуртках вучні паглыбляюць свае веды. Кожны вучань належыць да двух найлепшых гурткоў.

Вельмі важнай справай зімою, асабліва даязджаючым вучням, з'яўляюцца абеды ў школе. З абедамі бельскі ліцэй не мае клопатаў. Ад пачатку зімы вучні маюць абеды і вельмі з іх задаволены. Ад 25-га лютага г.г. у ліцэі па ініцыятыве членаў вучнёўскага кааператыва пачаў працаваць новы «склепік». Яго спецыяльнасцю з'яўляецца продаж бутэрбродаў і кавы. Як адгэтуль абароты вельмі вялікія. Прадаўшчыкамі з'яўляюцца вучаніцы II-га класа ліцэя. Кіраўніком і адданым апекуном вучнёўскага кааператыва з'яўляецца мгр Анацік.

В-ка
Бельск Падляшскі

## ГАЙНАЎКА



**Вуліца 1-га мая.** **Фота: Янцал**

## ХТО ДАПАМОЖА

Вёска Старына (Гайнаўскі павет) невялікая, налічвае 19 гаспадароў. Знаходзіцца ў Белавежскай пушчы. У Старыне ёсць новая крама і прыгожая новая школа. Калі будавалася школа, абяцалі ўлады, што будзе там зала, з якой змогуць карыстаць вясковыя жыхары. Аднак аказалася зусім інакш. Зімою палавіна школы стаіць пустая — заняткі адбываюцца толькі на адным паверсе. Аднак моладзь не можа карыстаць з вольнага месца. У вёсцы няма ні святліцы, ні клуба, ні нават бібліятэкі. Зусім пустая стаіць таксама старая школа. Некалькі гадоў таму існаваў тут гурток ЗМВ і быў мастацкі калектыў, але з браку месца ўсё раскідалася. Апрача кіно, якое прыязджае раз на некалькі месяцаў, нічога тут не адбываецца. Вельмі хочам, каб нашай вёскай зацікавілася Беларускае таварыства, ЗМВ і спартыўныя ўлады.

**С. А.**
Старына

## ШКОЛЬНІКІ Ў ГОНАР V З'ЕЗДА ПАРП

Вучні дубінскай СПР і пачатковай школы надалей выконваюць свае абавязацельствы ў гонар V з'езда ПАРП. У мінулым годзе пабудавалі яны грамадскім чынам падмурак пад гаспадарчы будынак, дзе будуць памяшчацца школьныя варштаты і кухня.

Пабудова такога будынка з'яўлялася тут неабходнай. Кошт пабудовы складае суму 204 тысячы злотых.

Папрацаваць чынам было вельмі патрэбным мерапрыемствам, і моладзь падтрымала ініцыятыву кіраўніка школы Яўгенія Гарустовіча.

Вясною ў гэтым годзе зноў закіпіць праца на новабудоўлі. Моладзь тут дружная і працавітая. Варта дадаць, што працай на будове кіруе былы абсальвент пачатковай школы ў Дубінах Грыша Ярмоц, які з'яўляецца маладзёжным актывістам у сваёй вёсцы.

**Я. Ц. Дубіны**

---

зноў, у выніку страху, трацяць яе. У маім выпадку дзейнічалі таксама іншыя спрыяльныя абставіны.

Калі пад Дзмітравічамі нямецкая жандармерыя злавіла члена нашай групы старшага лейтэнанта Чаўрыкава, нямецкая контрразведка ведала, што рэшта групы дзейнічае ў ваколіцы Бельска. Ведала яна таксама, што мы не звычайныя партызаны, што наша група накіравана выконваць спецыяльныя заданні. Аб гэтым, зрэшты, гаварыла і пакінута тады намі і падабрана немцамі наша маёмасць. Таму нямецкая контрразведка ставіла на нас свае пасткі. Калі нехта з жыхараў Кузава данёс жандармерыі, што ў вёсцы начуюць дзве падазроныя асобы, шэф пастарунку жандармерыі неадкладна звязаўся па тэлефону з гестапа ў Бельску. З Бельска атрымаў ён загад, колькі б гэта не каштавала, узяць нас жывымі. У дапамогу мясцовай жандармерыі накіравана жандараў з Орлі, а таксама частку салдат з аховы чыгункі. Такім чынам немцы стварылі трыццаціасабовы атрад. Гестапа лічыла, што на двух бандытаў гэта аж надта дастатковая сіла. Асабліва лічылі яны на шэфа жандармерыі з Орлі, лейтэнанта Мілера, вядомага злачынцу і ката мясцовага насельніцтва. Праз яго нават шэфы жандармерыі суседніх амсткамісарыятаў мелі прыкрасці, бо, праяўляючы празмерную стараннасць, патрапіў ён налятаць на іх тэрыторыю і ліквідаваць «злачынцаў».

Жандары акружылі хату Сідарука каля гадзіны першай ноччу другога лютага. Узяць нас мелі як развіднее. Загад жа быў: узяць жывых. Над раніцай пачаў падаць дождж са снегам. Немцы моклі і мерзлі. Паміж шэфамі з Орлі і мясцовым дайшло да спрэчкі. Мілер даказваў, што смешна, маючы толькі людзей, гадзінамі мокнуць з-за нейкіх там двух бандытаў. Шэф з Чаромухі лічыў, што лепш пачакаць да раніцы. Уступіў ён толькі тады, калі Мілер заявіў, што сам асабіста ўвойдзе ў хату і павыцягае нас як шчанюкоў. У хату ўвайшоў ён у пяць трыццаць, вынеслі яго з яе каля адзінаццатай.

Вестка аб выпадку маланкава разышлася ўздоўж чыгуначных шляхоў ваяводства. У цягніках людзі шэптам расказвалі пра двух савецкіх партызан, якія, акружаныя трыццацю жандарамі, не здаліся, набілі немцаў і ўцяклі.

Старшы лейтэнант Нячаеў даведаўся аб здарэнні ў той самы дзень, другога лютага, пасля абеда. Быў у тым часе з Паўлікам у памяшканні Хведара Савіцкага. Нячаеў пераначаваў у Беластоку і трэцяга лютага першым цягнікам адправіўся ў Бельск. А вечарам быў ужо ў зямлянцы на Кабыліх Галавах.

Каля двух тыдняў, зарыты ў сене на гары Тарлецкіх з Дубна, ляжаў я з забінтаванай галавой. Скончыліся мае падарожжы, я быў правалены. Нямецкая разведка мела мае фатаграфіі. Набліжалася вясна, а з ёю і надзея на канчатковую перамогу.

**Ян Анацік**

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Chłopcy z fantazją" (radz.), 25—26. „Olbrzym" (USA), 27—28. „Trzy. topole" (radz.), 29—30.

**Дубіны**

„Niebo bez krat" (bułg.), „Wehikuł czasu" (USA), 29—30.

**Нараўка**

„Niebo bez krat" (bułg.), „Miłosne kłopoty" (radz.), 26—30.

**Нарва**

„Film z czarującą dziewczyną" (rumuński), „Zaufaj mi Anno" (bułg.), 26—30.

**Чыжы**

„Jutro Meksyk" (polski), 26—30.

**Дубічы Царкоўныя**

„Gdzie jest generał" (polski), 25—26. „Czerwone berety" (polski), 27—28. „Skarb bizantyjskiego kupca" (czeski), 29—30.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Intrygantki" (czeski), „Noc Iguary" (USA), 26—30.

**Орля**

„Między linami ringu" (USA), „Żywot Mateusza" (polski), 26—30.

**Райск**

„Hasło Korn" (polski), „Niepokoje wychowanka Torlesa" (NRF), 26—30.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Testament Agi" (węgierski), „Arcylokaj" (franc.), 25—28.

**Міхалова**

„O życie dla Ruth" (ang.), 25—26. „Dr Crippen przed sądem" (ang.), 27—28. „Napad stulecia" (ang.), 29—30.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Barwy walki" (polski), 25—26. „Nieznany" (polski), 27—28. „Westerplatte" (polski), 29—30.

**Шудзялава**

„Noc Iguary" (USA), „Smog" (węgierski), 26—30.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Zerwany most" (polski), „Wspaniałe wakacje" (rumuński), 26—30.

**Новы Двор**

„Byłam głupią dziewczyną" (węgierski), „Gra uczuć" (hiszpański), 29—30.

**Ліпск**

„Wycieczka w nieznane" (polski), „Upiór z Morsville" (czeski), 29—30.


# Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 7167

